© PDF: Kamunikat.org 2014 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2014


# наша свабода

№29(256) ВЫДАЕЦЦА З 25 ЛЮТАГА 2000 ГОДУ

15 САКАВІКА 2002 году ПЯТНІЦА

Адрас: 220123, г.Мінск, а/с 103

тэл. 284-36-53

E-mail: NPSvaboda@irex.minsk.by

http://www.svaboda.com

КОШТ СВАБОДНЫ


## Дэтэктар хлусні ў Беларусі

Беларускія праваахоўнікі пачалі выкарыстоўваць пры патрэбе даказаць віну злачынцы паліграф, які яшчэ інакш называюць дэтэктарам хлусні (ад англ.*lie detector*). Днямі паліграф дапамог следчым даказаць дачыненне да жорсткага забойства падазраванага жыхара Полацку.

Гэтая прылада – апарат накшталт камп'ютэра, які рэагуе на імпульсы чалавечага арганізму пры адказе на шэраг адмыслова падабраных пытанняў падчас допыту.

*Заканчэнне, на стар.3*

## Тэрарыстам выдалі амерыканскія візы пасмяротна

Праз шэсць месяцаў пасля тэрарыстычных актаў у Нью-Йорку і Вашынгтоне на адрас лётнай школы ў Фларыдзе, дзе вучыліся Махамед Ата і Марван Алшэхі, якія накіравалі самалёты ў вежы Сусветнага гандлёвага цэнтру, прыйшлі дакументы іміграцыйных службаў з дазволам на жыццё і навучанне ў ЗША, паведамляе *The Washington Post*.

Авіяцыйная школа *Huffman Aviation International* накіравала запыт на амерыканскія візы для сваіх студэнтаў у жніўні 2000 году, аднак, праз загружанасць састарэлай сістэмы рэгістрацыі ў дэпартаменце іміграцыі і натуралізацыі ЗША, паведамленне пра выдачу візаў прыйшло толькі 11 сакавіка 2002 году.

«Апошняе здарэнне даказвае поўную нyздатнасць нашых іміграцыйных службаў стаяць на варце нашых законаў і абараняць нашыя межы», – пракаментаваў сітуацыю сябар Рэспубліканскай партыі Джэймс Сенсенбрэнер.

Афіцыйныя прадстаўнікі іміграцыйных службаў і Міністэрства юстыцыі прызналі такі відавочны факт маруднасці бюракратычнай машыны, аднак, паводле іх сцвярджання, будучыя тэрарысты ўехалі на тэрыторыю ЗША па турыстычных візах, якія толькі ўлетку 2001 былі заменены на студэнцкія.

«Калі было прынята рашэнне аб выдачы візаў, іміграцыйным уладам не паведамілі пра тое, што гэтыя асобы дачынныя да тэрарыстычнай арганізацыі», – адзначаецца ў спецыяльнай заяве.

# Два пажыццёвыя зняволенні, 25 і 12 гадоў турмы


Фота IREX/ProMedia

*Такі прысуд вынес Мінскі абласны суд бандзе з трох былых супрацоўнікаў МУС і аднаго крымінальніка, вядомых як «група Ігнатовіча».*

Пажыццёвыя тэрміны атрымалі былы супрацоўнік беларускага спецпадраздзялення «Алмаз» Валерый Ігнатовіч і баец «Алмазу» Максім Малік. Былы курсант Акадэміі МУС Аляксей Гуз будзе адседжваць 25 гадоў. Чацвёрты падсудны – Сяргей Савушкін – асуджаны да 12 гадоў зняволення ў калоніі строгага рэжыму.

Нагадаем, што гэтых людзей абвінавацілі ва ўчыненні сямі злачынстваў, сярод якіх – забойства азербайджанскай сям'і Насібавых-Агаевых у Мінску, забойствы ў Барысаве і Мар'інай Горцы, разбойны напад. На думку пракурора, даказаным з'яўляецца таксама эпізод з выкраданнем 7 ліпеня 2000 году аператара *ОРТ* Дзмітрыя Завадскага. У той дзень ён выехаў у Нацыянальны аэрапорт «Мінск», каб сустрэць калегу Паўла Шарамета, але ў аэрапорце знайшлі толькі ягоную машыну. З таго часу няма дакладных звестак пра ягоны лёс. Суд таксама нічога не здолеў высветліць пра ягонае месцазнаходжанне.

Па версіі суду, Валерый Ігнатовіч помсціў Д.Завадскаму за тое, што той раскрыў праз «*Белорусскую деловую газету*» некаторыя падрабязнасці паўкрымінальных «прыгодаў» былога спецназаўца ў Чачні. Аднак у тым інтэрв'ю, на якое спасылаўся пракурор Фёдар Шэдаў, імя В.Ігнатовіча нідзе не ўзгадвалася.

Шмат хто ў Беларусі, у тым ліку і сваякі Д.Завадскага, не лічаць, што «група Ігнатовіча» мае дачыненне да выкрадання аператара. Адвакат жонкі Д.Завадскага Святланы Сяргей Цурко заявіў пасля заканчэння судовага следства, што віна абвінавачаных не даказаная. А адвакат маці расійскага журналіста Ігар Аксёнчык назваў галоўным падазроным па гэтай справе генеральнага пракурора Беларусі Віктара Шэймана, і за гэта супраць яго таксама ўзбудзілі крымінальную справу.

Летась следчы КДБ Генадзь Угляніца і актывіст незарэгістраванай арганізацыі «Край» Андрэй Жарнасек уцяклі ў Нарвегію. Яны паведамілі журналістам, што расследавалі знікненне Дзмітрыя Завадскага разам са знікненнямі палітыкаў Юрыя Захаранкі і Віктара Ганчара, а таксама бізнесмена Анатоля Красоўскага. Уцекачы сцвярджалі, што Д.Завадскага скралі і забілі байцы спецыяльнага атраду хуткага рэагавання пад камандаваннем падпалкоўніка МУС Змітра Паўлічэнкі. Маўляў, аператар сустракаў іх у камандзіроўцы ў Чачні – тыя біліся з чачэнцамі, насілі форму расійскіх АМАПаўцаў. Разгалошванне гэтых звестак стала б вялікім міжнародным скандалам.

Расійскі журналіст Павел Шарамет, спасылаючыся на былога генеральнага пракурора Беларусі Алега Бажэлку, казаў, што прычынай выкрадання Д.Завадскага магла быць боязь чыноўнікаў са спецслужбаў, ці не даведаўся ён чаго-небудзь пра тайныя аперацыі па продажы зброі чачэнскім баевікам, якімі нібыта займаліся прадстаўнікі беларускага кіраўніцтва. А.Бажэлка на судзе аднак гэтых словаў адмовіўся.

Абедзве версіі суд не палічыў вартымі расследавання.

**Міхась КАРПОВІЧ**




**Падпісны індэкс НАШАЙ СВАБОДЫ 63478**

# «Факты гавораць самі за сябе»

*У Мінску адбылася афіцыйная прэзентацыя справаздачы Дзяржаўнага дэпартаменту ЗША аб стане правоў чалавека ў Беларусі ў 2001 годзе. Мерапрыемства адбывалася 13 сакавіка ў будынку амерыканскай інфармацыйнай службы (USIS), вёў яе амбасадар ЗША Майкл Козак.*

Па словах дыпламатычнага прадстаўніка, факты, прадстаўленыя ў справаздачы, не патрабуюць ніякага іншага каментару. «Я не хачу каментаваць змест справаздачы, – сказаў ён. – Калі мы добра зрабілі сваю працу, факты будуць казаць самі за сябе».

Як распавёў М.Козак, справаздачы па сітуацыі з правамі чалавека ў іншых краінах рыхтуюцца ў ЗША пачынаючы з 1975 году. Якраз тады Кангрэс пастанавіў, што прэзідэнт мусіць штогадова рапартаваць пра тое, як у іншых краінах захоўваюцца правы чалавека. Спачатку прэзідэнцкая справаздача Кангрэсу ахоплівала падзеі ў 82 краінах – тых, якія ў той ці іншай форме карысталіся амерыканскай дапамогай.

*Заканчэнне, на стар.3*

**ВЕСТКІ**


Фота Ул.ШЛАПАКА

## Падаражэнне камунальных паслуг

З 15 сакавіка на 20% будуць павялічаныя тарыфы на халодную ваду і каналізацыю. Такое рашэнне прыняло Міністэрства эканомікі. Мясцовым уладам дазваляецца ў 1,2 раза падвышаць кошты на камунальныя паслугі для насельніцтва.

## Падшыпнікавы завод – у прастоі

13 сакавіка спыніўся Мінскі падшыпнікавы завод. Прычына – запазычанасць прадпрыемства за энерганосьбіты. Яе памер складае блізу 2 мільярдаў рублёў. Кіраўніцтва заводу спадзяецца, што запазычанасць будзе пагашаная напачатку наступнага тыдня.

## У Беларусі дазволеныя анатамічныя дары

Новы закон «Аб ахове здароўя» забараняе ў Беларусі эўтаназію для невылечна хворых, але дазваляе чалавеку складаць завяшчанне на сваё цела пасля смерці. У адмысловым тэстаманце можна перадаць сваё цела ці ягоныя часткі на навуковыя медычныя даследаванні.

## Чыноўнікі перасаджваюцца на «мерседэсы»

У Магілёў пастаўленыя для старшыняў гарадскіх і раённых выканаўчых камітэтаў 28 легкавых аўтамабіляў «Мерседэс-Бенц С-180». Дагэтуль мясцовыя «вертыкальшчыкі» ездзілі на «Волгах». Мяркуецца, што на «мерседэсы» перасядуць і кіраўнікі «вертыкаляў» іншых абласцей Беларусі.

## Заяўкі на гімн прынятыя

Завершыўся першы этап конкурсу на гімн Беларусі – прыём варыянтаў тэксту і музыкі. У Міністэрства культуры паступіла 433 варыянты. Адмысловая камісія па прыняцці дзяржаўнага гімну Беларусі разгледзіць іх на сваім паседжанні 21 сакавіка.

## Югаславія знікне

Югаслаўская федэрацыя неўзабаве зменіць назву і будзе называцца «Сербія і Чарнагорыя». Пра гэта, як паведаміла *РИА «Новости»*, было абвешчана ў чацвер у Бялградзе пасля шматгадзінных перамоваў кіраўнікоў Югаславіі, Сербіі і Чарнагорыі па пытанні пра будучыя стасункі дзвюх рэспублік. Аб'яўлена таксама, што Чарнагорыя адмовілася ад правядзення рэферэндуму па пытанні аб незалежнасці.

**НАДВОР'Е НА ЗАЎТРА**




Крыніца: www.gismeteo.ru

**Курс наяўнага даляра на «чорным рынку» 1700**

© PDF: Kamunikat.org 2014 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2014

© PDF: Kamunikat.org 2014 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2014




**ВЕСТКІ**

## Шушкевічу пакінулі два даляры

Суд Маскоўскага раёну Мінску 12 сакавіка прыняў рашэнне адмовіць у задавальненні скаргі былога старшыні Вярхоўнага Савету Беларусі Станіслава Шушкевіча. Ён падаў у суд іск з патрабаваннем праіндэксаваць прызначаную яму ў 1996 годзе пэнсію. Пяць гадоў таму пенсійная дапамога былому кіраўніку парламенту складала ў эквіваленце каля 200 даляраў, але з таго часу абясцэнілася з-за інфляцыі ў 100 разоў.

З 11 верасня 1997 году ўмовы і нормы пенсійнага забеспячэння службоўцаў дзяржапарату рэгулююцца дэкрэтам прэзідэнта № 16 ад 9 верасня 1997 году «Аб некаторых мерах па ўпарадкаванні матэрыяльнага і сацыяльнага забеспячэння служачых дзяржаўнага апарату і асобаў, што да іх прыраўноўваюцца». Па сцвярджэнні адкасчыка, права на пенсію паводле нормаў названага дэкрэту заяўнік не мае, а заканадаўчы акт, які прадугледжваў бы асобны парадак прызначэння альбо пераразліку пенсіі былым старшыням Вярхоўнага Савету, не прыняты. Як сцвярджаюць прадстаўнікі Мінпрацы, іх ведамства не прызначае пенсіяў, не выплачвае іх, не мае права самастойна павялічваць памеры пенсій.

## Кантрабандныя кактусы

Дзве партыі гэтых калючых раслінаў былі затрыманыя пры спробе іх нелегальнага правозу праз беларускую мяжу на мытні «Заходні Буг». Кошт затрыманых кантрабандных кактусаў ацэнены на 18,4 мільёна рублёў.

## «Белкард» спыніў працу

Спынілася праца на гродзенскім заводзе «Белкард», прадукцыя якога выкарыстоўваецца пры зборцы машын на многіх аўтамабільных заводах СНД, прыкладам, на «КамАЗе», «УралАЗе», «КАЗе», «ЗИЛе», «ГАЗе». Прычына – затаваранасць складоў гатовай прадукцыяй. «Белкард» мусіў зменшыць аб'ёмы рэалізацыі карданных валоў на расійскім рынку, бо там арганізавалі сваю вытворчасць гэтай прадукцыі.

## Маладыя кіроўцы – самыя небяспечныя

Паводле звестак інфармацыйна-аналітычнага цэнтру Міністэрства ўнутраных справаў Беларусі, самыя небяспечныя кіроўцы на нашых дарогах – гэтыя маладзёны ад 19 да 23 гадоў. Трохі радзей трапляюць у дарожна-транспартныя здарэнні тыя, каму 24–28 і 29–33 гады.

## Затрымалі адміністратарку рынку «Аквабел»

Па падазрэнні ў атрыманні хабару затрымалі адміністратарку сталічнага рынку «Аквабел». Як падае радыё «Рацыя», міліцыя падазрае яе ў атрыманні са жніўня мінулага году да гэтага часу хабару памерам 3 мільёны рублёў. У дачыненні да затрыманай абраная мера стрымання ў выглядзе падпіскі аб нявыездзе.

## Аварыя каля Барсукоў

12 сакавіка адбылася аварыя на нафтавым калектары, размешчаным каля вёскі Барсукі Рэчыцкага раёну. З калектара вылілася 8 кубаметраў нафтавай эмульсіі, якая трапіла ў меліярацыйны канал. Плошча забруджанай у выніку аварыі тэрыторыі склала 120 квадратных метраў.

## Расійскія правыя за далучэнне Беларусі

Як заявіў у Маскве першы намеснік кіраўніка фракцыі Саюзу правых сіл у Дзяржыўме Барыс Надзеждзін, СПС выступае супраць фармавання верхняй палаты парламенту Саюзнай дзяржавы на парытэтных асновах з Беларуссю. Фракцыя СПС будзе галасаваць супраць прыняцця ў першым чытанні законапраекту, які прадугледжвае парытэтны прынцып фармавання гэтага органа. «Мы лічым гэтую схему памылковай, – паведаміў Надзеждзін. – Нейкая агульная дзяржава можа быць створана толькі на ўмовах далучэння Беларусі да Расіі. Дагавор на роўных з краінай, якая па насельніцтве, тэрыторыі і аб'ёме валавога ўнутранага прадукту ў 50 разоў меншая за Расію і на чале якой стаіць Лукашэнка, недапушчальны». Згодна з праектам, верхняя палата расійска-беларускага парламенту павінна складацца з 72 дэпутатаў – 36 прадстаўнікоў ад Федэральнага сходу Расіі (24 дэпутаты Дзярждумы і 12 чальцоў Савету Федэрацыі) і 36 прадстаўнікоў Нацыянальнага сходу.

Шчырасць выказвання думскага дзеяча яскрава дэманструе, што расійскія правыя ў сваім стаўленні да Беларусі нічым не розняцца ад расійскіх левых ці расійскіх цэнтрыстаў імперскага гарту, і спадзяванні беларускіх правых палітыкаў на дапамогу сваіх правых калегаў у Расіі – звычайная правінцыйная прастадушнасць. І правыя, і левыя ў расійскай Дзярждуме заклапочаныя адраджэннем вялікадзяржаўнага статусу Расіі, таму страчаная ў часе развалу савецкай імперыі Беларусь ніколі не будзе ўспрымацца імі як самастойны дзяржаўны суб'ект, а выключна як тэрыторыя, якую варта далучыць з абмежаваннем правоў да правінцыйнага ўзроўню. Згадкі пра Лукашэнку носяць рытуальны характар і, па сутнасці, служаць заслонай, якая хавае ад увагі і асэнсавання галоўную падставу.

Мікалай ГАНЬЧА

# Служэнне Мельпамене ў цемры і халадэчы

На мінулым тыдні ў Магілёўскім абласным тэатры драмы і камедыі імя Дуніна-Марцінкевіча, што знаходзіцца ў Бабруйску, за энергадаўгі адключылі святло і ацяпленне. Тэатр зачыніў свае дзверы для гледачоў.

Да якой пары будзе цягнуцца і рэзанавацца на ўсю краіну гэтая ганьба – невядома. Тэатр фінансуецца з бюджэту гораду, а кіраўніцтва Бабруйскага гарвыканкаму пакуль нічога пэўнага не абяцае. У траўні мінулага году ў гарвыканкаме быў наладжаны прыём калектыва тэатру з нагоды ўдалага выступу на міжнародным фестывалі тэатральнага мастацтва ў Днепрадзяржынску на Украіне. Раздавалі граматы. Хай бы прыязнае і спрыяльнае стаўленне да Магілёўскага абласнога тэатру драмы і камедыі выяўлялася б не толькі ў дзяжурных падзеях.

Бабруйскі тэатр імя Дуніна-Марцінкевіча – ці не самы моцны з тэатральных калектываў па-за сталіцай і абласнымі цэнтрамі. Глядзельная заля тут – адна з самых вялікіх у краіне, з болей як паўтысячай месцаў. Нездарма якраз у Бабруйску праводзіцца фестываль нацыянальнай беларускай драматургіі.

Ганебнасць сітуацыі для бабруйскіх уладаў і прыкрасць у настроях тэатралаў павялічваецца ад таго, што сёлетні год для марцінкевіцкага тэатру юбілейны. Яму спаўняецца 45 гадоў: адчыніўся ён у 1957 годзе. Яшчэ адзін юбілей – 25-годдзе надання тэатру імя вядомага беларускага драматурга Вінцэнта Дуніна-Марцінкевіча.

Такі выпадак з адключэннем цяпла і святла ў тэатры адбываецца ў Беларусі ўпершыню. Цярпяць многія: гледачы – ад таго, што не могуць пайсці атрымаць эстэтычнае задавальненне ад спектаклю, артысты (вядома ж, тонкія натуры) – бо ім даводзіцца працаваць у антымастацкіх умовах. Пакутуюць канкрэтныя людзі паасобку. І пакутуе наогул мастацтва.



**Дырэктар Бабруйскага тэатру імя Дуніна-Марцінкевіча Яўген Бойка**

Дагэтуль ні святла няма, ні цяпла – і спектакляў няма. Вы прыязджайце і спытайце, што думаюць і як пачуваюцца гледачы і артысты. Я стаміўся адказваць, што не ведаю, калі ўсё наладзіцца, калі нам дадуць грошы. Гэта пытанне да гарвыканкамаўскіх чыноўнікаў. Спектакляў не даём, але праца ідзе. Паралельна ідуць рэпетыцыі трох спектакляў. Рэпетуем у фае.

Кірыла ПАЗЬНЯК

# Не заўважылі вясны

Увечары 12 сакавіка пад лёд Вілейскага вадасховішча праваліліся два рыбакі – жыхары вёскі Ілья.

Як паведамілі БелаПАНу ў прэс-службе Міністэрства па надзвычайных сітуацыях, людзей, якія апынуліся ў вадзе, убачылі жыхары суседняй вёскі Сасёнка, яны ж паведамілі пра здарэнне ў Вілейскі раённы аддзел па надзвычайных сітуацыях. Праз некалькі хвілін на месца выкліку прыбыло першае падраздзяленне МНС. Больш за 200 метраў давялося паўзці па лёдзе аднаму з ратавальнікаў, каб дабрацца да рыбакоў. З дапамогай вяроўкі і лесвіцы ўдалося выцягнуць з вады 29-гадовага рыбака. Другі, 65-гадовы мужчына, быў гэтак знясілены, што не змог дацягнуцца да лесвіцы і на вачах ратаўнікоў пайшоў пад ваду.

Сёння работнікі Вілейскай ратавальнай станцыі праводзяць на месцы гібелі рыбака вадалазныя работы, каб знайсці яго цела.

Дзмітрый БЕЛЬСКІ

## Некурцам – больш заробак

Работнікі калгасу «Радзіма» Бялыніцкага раёну Магілёўскай вобласці з сакавіка бягучага году абвясцілі адмысловую вайну п'янству і курэнню. З ініцыятывы старшыні праўлення гаспадаркі Аляксандра Лапацентава сход калгасніка прыняў рашэнне, згодна з якім кожны работнік гаспадаркі, які не курыць, будзе атрымліваць 10-працэнтную надбаўку да месячнай зарплаты. А той, хто будзе прытрымлівацца здаровага ладу жыцця і пры гэтым добра працаваць, атрымае да асноўнага заробку 15-працэнтную надбаўку.

Раней Лапацентаў праводзіў у калгасе кампанію па кадзіроўцы работнікаў ад п'янства, што прынесла пэўны плён. Летась «Радзіма» аказалася адзіным калгасам раёну, які дамогся рэнтабельнай вытворчасці. Гэтая гаспадарка мае комплекс па гадоўлі жывёлы на забой, займаецца раслінаводствам. У прыватнасці, вытворчасцю элітнага насення.

Канстанцін УВАРАЎ

# Магілёўскі наркаман

У Магілёве падчас аператыўна-пошукавых мерапрыемстваў супрацоўнікамі Упраўлення КДБ па Магілёўскай вобласці на мінулым тыдні быў затрыманы мясцовы 52-гадовы жыхар, у якога канфіскавана каля 100 грамаў наркатычнага рэчыва.

Як паведаміла прэс-група УКДБ, экспертызай устаноўлена, што гэтае рэчыва – моцны сінтэтычны наркатычны сродак метадон. Таксама паведамляецца, што гэта самы дарагі наркотык, зарэгістраваны на тэрыторыі Беларусі. Кошт метадону на «чорным» рынку вагаецца ад 130 да 150 даляраў ЗША за грам. Магілёвец арыштаваны, у адносінах да яго следчым аддзелам УКДБ узбуджана крымінальная справа.

Канстанцін УВАРАЎ

# «Хранікёры нашага смутнага часу»




Праваабарончы цэнтр «Вясна» правёў прэзентацыю сотага нумару бюлетэня «Права на волю». Бюлетэнь выдаецца цэнтрам з лютага 1998 году на беларускай, рускай, англійскай мовах два разы ў месяц абмежаваным накладам. «Права на волю» распаўсюджваецца ў Беларусі, некаторых краінах СНД (галоўным чынам у Расіі), краінах так званага «далёкага замежжа». Знаёміцца з выпускамі бюлетэня можна і праз інтэрнэт. Старшыня праваабарончага цэнтру «Вясна» і рэдактар бюлетэня Алесь Бяляцкі працытаваў на прэзентацыі выняткі з лістоў сталых чытачоў выдання, а таксама лісты праваабаронцаў з Расіі, Швецыі, Швейцарыі ды іншых краін, дзе праяўляецца цікавасць да аб'ектыўнай інфармацыі пра сітуацыю з правамі чалавека ў Беларусі. Вядомы мастак Алесь Пушкін засведчыў сваё стаўленне да дзейнасці ПЦ «Вясна» такімі словамі: «З усёй складанай і шматграннай дзейнасці «Вясны» вылучу, на мой погляд, самае асноўнае: супрацоўнікі «Вясны» – гэта хранікёры нашага смутнага часу... «Вясна» рэальна дапамагае людзям. Я гэта бачу па сваім сябру Андрэю Аляхновічу – настаўніку, якога звольнілі з працы за ўдзел у перадвыбарнай кампаніі. Праваабарончы цэнтр падтрымаў яго ў цяжкую хвіліну». Такую неабходную падтрымку звеадалі тысячы людзей. Паводле словаў Алеся Бяляцкага, зараз ідзе падрыхтоўка рэгістрацыі выдання ў Міністэрстве інфармацыі, плануецца павелічэнне яго накладу і пераход на большы фармат.

Алена КАЗАКЕВІЧ

# Пенсіянерам трэба гартавацца

## *Зацверджана праграма рэфармавання пенсійнага заканадаўства*

Як паведаміла 12 сакавіка на прэс-канферэнцыі ў Мінску начальнік аддзелу развіцця пенсійнай сістэмы Міністэрства працы і сацыяльнай абароны Наталля Мурашкевіч, мэта праграмы – удасканаленне і павышэнне эфектыўнасці пенсійнай сістэмы, а таксама яе адаптацыя да зменлівых сацыяльна-эканамічных умоваў.

Пенсійная сістэма, што існуе зараз, не адпавядае сацыяльна-эканамічным умовам, якія склаліся ў краіне. Такую думку выказала на прэс-канферэнцыі начальнік пенсійнага ўпраўлення Міністэрства працы і сацыяльнай абароны Беларусі Наталля Шаўлоўская. Паводле яе словаў, сістэма, якая цяпер склалася, занадта цяжкая для работнікаў, г. зн. тых, хто яе фінансуе. Прычыны сітуацыі, па-першае, палягаюць у суадносінах працоўных і пенсіянераў у краіне – 170/100. Пры гэтым, паводле яе словаў, сітуацыя будзе пагаршацца, бо неўзабаве чакаецца рэзкі прырост колькасці пенсіянераў. Па-другое, пры нізкім узроўні заробтнай платы адпаведна захоўваецца нізкі ўзровень пенсій. Па-трэцяе, у краіне змянілася структура грашовых даходаў насельніцтва, што адбіваецца на ўзроўні пенсійнага забеспячэння. Калі некалькі гадоў таму ў структуры грашовых даходаў насельніцтва заработная плата складала 73 працэнты, то зараз – 52. Пры змяншэнні долі заработнай платы ў даходах насельніцтва адпаведна змяншаюцца паступленні ў фонд сацыяльнай абароны, што адбіваецца на ўзроўні пенсійнага забеспячэння. Увогуле ж неспрыяльна ўздзейнічае на стан пенсійнай сістэмы цэлая сукупнасць сацыяльна-эканамічных прычын і неспрыяльная дэмаграфічная сітуацыя (старэнне насельніцтва).

Цяперашнім часам, як адзначыла Наталля Шаўлоўская, тарыф страхавых узносаў у Фонд сацыяльнай абароны насельніцтва для большасці наймальнікаў складае 35 працэнтаў фонду заработнай платы працоўных. І многія суб'екты гаспадарання не ў стане плаціць страхавыя ўзносы пры такой тарыфнай стаўцы. На 1 сакавіка запазычанасць суб'ектаў гаспадарання па страхавых узносах складае 79 мільярдаў рублёў.

Што да праграмы рэфармавання пенсійнай сістэмы, то, як паведамляў БелаПАН, яна прадугледжвае падрыхтоўку новага заканадаўства ў два этапы. Першы будзе ажыццёўлены ў 2002 годзе, другі – у 2003-2004 гадах.

БелаПАН

© PDF: Kamunikat.org 2014 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2014

© PDF: Kamunikat.org 2014 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2014



# Дэтэктар хлусні ў Беларусі

*Заканчэнне, пачатак на стар.1*

Беларускае заканадаўства дазваляе псіхафізіялагічную дэтэкцыю хлусні ў інтарэсах следства. У адмысловай інструкцыі аб парадку правядзення органамі дзяржаўнай бяспекі Беларусі апытання з выкарыстаннем паліграфу ад 1998 году гаворыцца, што «апытанне грамадзян, у тым ліку замежнікаў і асобаў без грамадзянства, з выкарыстаннем паліграфу ёсць разнавіднасць аператыўна-вышуковага мерапрыемства – апытання з прымяненнем тэхнічных сродкаў, якія не наносяць шкоды жыццю і здароўю людзей, шляхам фіксацыі фізіялагічных рэакцыяў апытанага на зададзеныя пытанні». Дарэчы, выкарыстанне паліграфу раней было дазволена толькі супрацоўнікам Камітэту дзяржбяспекі. Міністэрства ўнутраных справаў атрымала такое права зусім нядаўна: адмысловы аддзел паліграфных даследаванняў тут створаны толькі мінулым летам. Беларусы карыстаюцца паліграфамі маркі «Рыф», закупленымі ў Расіі. Расейцы хваляцца, што іхнія дэтэктары хлусні не саступаюць па эфектыўнасці амерыканскім і што іх нельга падмануць ніякім вядомым спосабам: прыкусамі языка, націсканнем пальцаў на стол, кашляннем, адмысловым дыханнем ці ўжываннем заспакойлівых таблетак. Дарэчы, у МУС маюць намер правяраць на дэтэктары хлусні не толькі магчымых злачынцаў, але і саміх супрацоўнікаў праваахоўных органаў. Рабіцца гэта будзе дзеля чысткі шэрагаў. Напрыклад, каб праверыць, ці няма ў міліцыі асобаў, звязаных з крымінальным светам. Такая практыка распаўсюджаная ў спецслужбах многіх краінаў.

Апытанні з выкарыстаннем паліграфу (скарочана – АВП) мусяць праводзіцца пры пэўных нагодах і па пэўных правілах. Звернемся да вышэйзгаданай інструкцыі КДБ. Паводле яе, дэтэктар хлусні прымяняецца дзеля «павышэння эфектыўнасці аператыўна-вышуковай дзейнасці і праверкавых мерапрыемстваў, звязаных з допускам да дзяржаўных сакрэтаў, а таксама для адбору кандыдатаў на службу (работу) у КДБ».

Але праводзіць так званыя АВП нельга пры фізічным і псіхічным знясіленні таго, каго хочуць дапытаць, наяўнасці ў яго псіхічнага расстройства ці фазы абвастрэння захворвання, звязанага з парушэннем дзейнасці сардэчна-сасудзістай і дыхальнай сістэмаў. Апрача таго, паліграф не можа выкарыстоўвацца, калі падазраваны рэгулярна прымаў моцныя лекавыя прэпараты або калі ён у стане алкагольнага ці наркатычнага ап'янення. Нельга правяраць на дэтэктары хлусні і тых, хто яшчэ не мае 18 гадоў.

І самае галоўнае: апытанне з выкарыстаннем паліграфу магчымае толькі пры згодзе асобы, якую збіраюцца апытваць. Адмова ад правядзення АВП – не доказ дачынення да злачынства ці намеру схаваць праўду. Разам з тым паказанні дэтэктара хлусні таксама не 100-працэнтны доказ віны апытанага, гэта толькі дапамога следчым у раскрыцці той ці іншай справы. Калі ж чалавек дае згоду на праверку дэтэктарам хлусні, яму павінны патлумачыць яго ныя правы і сутнасць працэдуры адказаў на пытанні з дэтэктарам хлусні.

**Кірэй МАНУЙЛА**




**ЭКСПЕРТ**

# Чарговы інтэграцыйны прыступ

Завяршылася сустрэча прэм'ераў Беларусі і Расіі. Кола пытанняў быццам бы тое самае: уніфікацыя заканадаўства, адзіныя цэны на энерганосьбіты, канстытуцыйны акт. Як ва ўсім разабрацца неспецыялісту, чалавеку без эканамічнай адукацыі? Мой субяседнік – экс-старшыня Нацыянальнага банку прафесар Багданкевіч.

***– Спадар Станіслаў, ужо колькі гадоў мы чуем: уніфікацыя заканадаўства, уніфікацыя заканадаўства... А штосьці-небудзь рэальнае робіцца ў гэтай галіне?***

– Так, праца ідзе. Сёння беларускія законы распрацоўваюцца з улікам як расійскага, так і еўрапейскага досведу. Праблема, аднак, у іншым. Прынцыпе рыначных законаў не ліквідавала адміністрацыйнай сваволі ў эканоміцы.

***– Калі давяраць прэсе, Касьянаў выставіў свайму беларускаму калегу «надзвычай жорсткія патрабаванні». У чым яны?***

– Галоўнае, чаго дабіваецца ад нас Расія, – рэальных эканамічных рэформаў. Іх стрыжань – аддзяленне дзяржаўнай улады ад бізнесу. Такі падыход у Беларусі цяперашнім часам немагчымы.

***– Чаму ж тады Лукашэнка праводзіць перамовы?***

– У яго папросту няма выйсця. Эканамічнае банкрутства «рыначнага сацыялізму», банкрутства ўсёй дзяржаўнай сістэмы бачныя ўжо і неспецыялістам. Ці пойдзе прэзідэнт на рэальныя рэформы, ці проста цягне час – не ведаю. Тут шмат што залежыць ад вынікаў прыватызацыі нафтахімічных прадпрыемстваў. «Прыватызацыйныя грошы» дазваляюць рэжыму дацягнуць да канца году. А там яшчэ што-небудзь знойдуць для продажу.

***– А што, спадар Станіслаў, вы скажаце наконт адзінага рубля?***

– Адзіныя грошы – вянец эканамічнай інтэграцыі. Паглядзіце на Еўропу. Беларусь з часоў Кебіча ідзе сваім шляхам. Адсюль і вынік.

Экспертныя агляды прафесара С.Багданкевіча стануць у нас рэгулярнымі. Чытачы НАШАЙ СВАБОДЫ змогуць цяпер задаваць спадару Багданкевічу і свае пытанні, патэлефанаваўшы ў рэдакцыю ці даслаўшы на наш адрас ліст.

**Гутарыў Сяргей НІКАЛЮК**

# «Факты гавораць самі за сябе»

*Заканчэнне, пачатак на стар.1*

Потым гэтае кола пашыралася. Сёлета ў «прэзідэнцкі спіс» уваходзілі 195 краінаў свету. Па словах амерыканскага амбасадара, адміністрацыя ЗША выкарыстоўвае кантроль за праваю ситуацыяй па ўсім свеце дзеля таго, каб адпаведным чынам будаваць сваю дзяржаўную і гандлёвую палітыку з іншымі краінамі.


Фота Ул. ШЛАПАКА

Былі ўзгаданыя словы прэзідэнта ЗША Джорджа Буша: «Мы не збіраемся навязваць сваю культуру. Але Амерыка заўсёды будзе цвёрда адстойваць бясспрэчныя патрабаванні людской годнасці: вяршэнства закону, абмежаванне паўнамоцтваў дзяржавы, абарона прыватнай уласнасці, свабода слова, роўнасць перад законам і рэлігійная талерантнасць».

Кожная справаздача структуруецца па раздзелах і падраздзелах. Усе правы прадстаўлены ў такім выглядзе, як яны выкладзеныя ва Усеагульнай дэкларацыі правоў чалавека. Гэта захоўванне свабоды асобы ад катаванняў і жорсткага абыходжання; ад затрымання на доўгі тэрмін без прад'яўлення абвінавачання; ад знікнення або нелегальнага зняволення, а таксама ад іншых парушэнняў права на жыццё, свабоду і бяспеку чалавека.

На працягу ўсяго году амерыканскія амбасады па ўсім свеце збіраюць звесткі пра парушэнні правоў чалавека. Для гэтага выкарыстоўваюцца самыя розныя крыніцы, якія належаць да ўсяго магчымага спектру меркаванняў – гэта ўрадавыя чыноўнікі, юрысты, журналісты, праваабаронцы і прафсаюзныя актывісты. У канцы году рыхтуецца чарнавая версія справаздачы. Пасля яе накіроўваюць у Вашынгтон для дэталёвага вывучэння. Супрацоўнікі Дзярждэпу аналізуюць і рэдагуюць яе пры дапамозе праваабарончых арганізацый, ААН, СМІ. Па словах М.Козака, такім чынам шукаецца аб'ектыўная, дакладная і бесстаронняя ацэнка патрэбнай інфармацыі. Выніковую версію прэзідэнт прадстаўляе на разгляд Кангрэсу.

У наступным нумары мы плануем пазнаёміць вас з найбольш значнымі момантамі амерыканскай справаздачы.

**Расціслаў ПЕРМЯКОЎ**

# Скарынаўскі цэнтр Акадэміі навук не патрэбны

Нацыянальны навукова-асветны цэнтр імя Францішка Скарыны апынуўся пад пакуль яшчэ кволай, але пагрозай скасавання. Хутчэй за ўсё ён будзе змушаны пакінуць падпарадкаванне Міністэрству адукацыі і шукаць новы дах. Праўда, ёсць апасенні, што беларускія ўлады палічаць, нібыта Скарынаўскі цэнтр, які па сутнасці выконвае функцыі Інстытуту краіны, збірае і папулярызуе ў свеце інфармацыю пра Беларусь, не патрэбны. Тут усё проста: ёсць палітыка на нацыянальнае адраджэнне – ёсць спрыянне такім структурам, як Скарынаўскі цэнтр. Апрача таго, у бок Цэнтру чуецца крытыка за неактыўную і надта аморфную дзейнасць. Такім чынам, можа атрымацца, што ніякая іншая дзяржаўная інстытуцыя не захоча пераняць Цэнтр ад Мінадукацыі пад сваё крыло, то бок прыйдзецца на сваё фінансаванне.

Сёлета ў сістэме Міністэрства адукацыі ёсць план скарачэння цэлага шэрагу падведамасных арганізацыяў і скарачэння фінансавання тых, якія застануцца. Напрыклад, мяркуецца зачыніць шмат школаў у правінцыі. Карацей, Скарынаўскі цэнтр бядуе не адзін. Прычым пазбаўляцца ад яго проста так з канцамі ў Міністэрства адукацыі намераў няма. Тут хочуць перавесці «скарынаўцаў» пад дах Беларускага дзяржаўнага універсітэту. Але ў самім Скарынаўскім цэнтры лічаць, што гэта для інстытуту краіны замалы статус, і баяцца, што БДУшнае фінансаванне будзе мізэрным – так што многія даследчыя і асветніцкія напрамкі дзейнасці Цэнтру давядзецца згарнуць.

Дарэчы, пасля таго, як на 2002 год фінансаванне Скарынаўскага цэнтру зменшылі прыкладна напалову, ён ужо зараз вырашае, ад якіх навуковых тэмаў адмовіцца. Няма грошай нават на аплату камунальных паслуг. У выніку на Рэвалюцыйнай, 13, у колішнім будынку Інбелкульту, дзе месціцца Скарынаўскі цэнтр, па вечарах працуюць са свечкамі. Бо зноў, як і летась, тут адключылі за энергазапазычанасць святло.

Між тым, як нам стала вядома, кіраўніцтва Скарынаўскага цэнтру робіць захады, каб Цэнтр узялі да сябе альбо Акадэмія навук Беларусі, як тое было напачатку 1990-ых гадоў, альбо Міністэрства замежных справаў. Дарэчы, аналагічныя Скарынаўскаму цэнтру арганізацыі дзейнічаюць пры акадэміях навук і пры МЗС па ўсім свеце.

Варыянт з Акадэміяй навук, здаецца, не прайшоў. На просьбу кіраўніцтва Нацыянальнага навукова-асветнага цэнтру імя Ф.Скарыны сюды прыйшоў адказ за подпісам прэзідэнта АН Міхаіла Мясніковіча, дзе гаворыцца, што пакуль гэта немагчыма. Самае цікавае ў лісце – чаму гэта немагчыма. Па-першае, маўляў, Скарынаўскі цэнтр дрэнна фінансуецца. Але дзеля гэтага да вас і просяцца, а не толькі дзеля прэстыжу быць пад Акадэміяй навук! Хоць у прынцыпе ўсё зразумела: Акадэміі навук не да ўзбуйнення, яна сама стала на шлях рэфармавання, якое пакуль праяўляецца ў татальнай эканоміі і скарачэнні кадраў. Другая прычына адмовы – у духу савецкіх 1930-ых гадоў. Цытую бліза да тэксту: высновы, якія ўтрымліваюцца ў нешматлікіх навукова-даследчых працах супрацоўнікаў Скарынаўскага цэнтру, адрозніваюцца ад высноваў адпаведных прац акадэмічных вучоных. Што да Міністэрства замежных справаў, то там яшчэ думаюць, ці браць Цэнтр да сябе і на якіх умовах.

Каб даведацца, як вырашаецца гэтае пытанне і якія тут перспектывы, мы звярнуліся да дырэктаркі Скарынаўскага цэнтру Любові Уладыкоўскай-Канапляник, але тая пакуль адмовілася каментаваць сітуацыю вакол лёсу сваёй арганізацыі.

**Кірыла ПАЗЬНЯК**

# «Шклоўская справа»

*У чым сутнасць крымінальнага злачынства непаўналетняга Максіма Патупчыка? Пра гэта паведамляе наступны незвычайны дакумент*

«Постановление о привлечении несовершеннолетнего в качестве обвиняемого. Г. Шклов, 27 декабря 2001 года.

Следователь прокуратуры Шкловского района юрист 2-го класса Гончарова Н.А., рассмотрев материалы уголовного дела №290,

УСТАНОВИЛ:

Принимая во внимание, что по делу собраны достаточные доказательства, дающие основание для предъявления обвинения Потупчику Максиму Евгеньевичу, 28 августа 1983 года рождения, в том, что он 14 августа 2001 года около 17 часов 50 минут по предварительному сговору с Павловичем А.В., Сенокосовым Д.А., Шалашковым Д.А., Киселевым М.М. о совершении действий, унижающих честь и достоинство действующего Президента Республики Беларусь Лукашенко А.Г., прибыли в деревню Городец Шкловского района на автомобиле ВАЗ-21063 гос. номер 637-41 МГ, принадлежащем Потупчику Е.А. Находясь в деревне Городец, Павлович А.В. надел на лицо заранее подготовленную картонную маску, имитирующую лицо Президента Республики Беларусь Лукашенко А.Г., а Потупчик М.Е. и Сенокосов Д.А. одели на себя медицинские халаты с прикрепленными к ним наклейками с надписью «Время выбирать» и «Время убирать». После этого Павлович А.В., Потупчик М.Е., Сенокосов Д.А., Шалашков Д.А., Киселев М.М. стали привлекать к себе внимание жителей деревни Городец, выкрикивая по ходу движения по улице деревни «Все на выборы!». Затем Павлович А.В., Потупчик М.Е., Сенокосов Д.А., Шалашков Д.А., Киселев М.М. вступили между собой в преступный сговор об инсценировке событий, оскорбляющих честь и достоинство Президента Республики Беларусь: поиска и задержания медицинскими работниками Лукашенко А.Г., якобы имеющего психические расстройства и сбежавшего из психиатрической больницы. При этом Павловичу А.В. отводилась роль Президента Республики Беларусь Лукашенко А.Г., Сенокосову Д.А. и Потупчику М.Е. – роль медицинских работников, а Шалашкову Д.А. необходимо было фиксировать с помощью фотоаппарата «SKINA» №2227959 на фотопленку «POLAROID 200-4, 4557-40 16» действия, выполняемые другими участниками преступного сговора. Действуя в соответствии с разработанным планом, Павлович А.В., на лице которого была надета маска, имитирующая лицо Президента Республики Беларусь Лукашенко А.Г., подошел к находившимся на улице деревни Городец гражданкам Устиновой О.М. и Игнатковой М.Я., а Киселев М.М. и Шалашков представили его жительницам деревни как Президента Республики Лукашенко А.Г. Спустя некоторое время Сенокосов Д.А. и Потупчик М.Е., на которых были надеты медицинские халаты и которые выдавали себя за медицинских работников, увидев находившегося возле гражданок Игнатковой М.Я. и Устиновой О.М. Павловича А.В., стали преследовать его, пытаясь задержать. Данные действия Шалашков Д.А. зафиксировал с помощью фотоаппарата «SKINA» №2227959 на фотопленку «POLAROID 200-4, 4557-40 16».

Продолжая свои преступные действия в целях реализации умысла, направленного на унижение чести и достоинства Президента Республики Беларусь Лукашенко А.Г., Павлович А.В., на лице которого была надета маска, имитирующая лицо Президента Республики Беларусь Лукашенко А.Г., выдавая себя за указанного главу государства, вошел в торговый зал магазина №36, расположенного в деревне Городец, и, обращаясь к присутствовавшим там гражданам, произнес: «Вы что, меня не узнали? Я ваш Президент». После этого в торговый зал вошли Потупчик М.Е. и Киселев М.М., которые, выдавая себя за медицинских работников, заведомо зная, что их действия наблюдают посторонние лица, со словами «Уберем психа» завели Павловичу А.В. руки за спину и вывели из магазина...

Своими действиями Потупчик М.Е. совершил публичное оскорбление Президента Республики Беларусь, то есть преступление, предусмотренное частью 1 статьи 368 УК Республики Беларусь.

В указанных действиях усматривается состав преступления, предусмотренный ст. 368 ч.1 УК Республики Беларусь.

Руководствуясь ст.ст. 240, 241, 243 УПК Республики Беларусь,

ПОСТАНОВИЛ:

4. Привлечь Потупчика Максима Евгеньевича, 28 августа 1983 года рождения, уроженца г. Шклова Могилевской области. В качестве обвиняемого по настоящему делу и предъявить ему обвинение в преступлении, предусмотренном ст. 368 ч. 1 УК Республики Беларусь.

Следователь Гончарова Н.А.»

**ПЦ «Вясна»**

© PDF: Kamunikat.org 2014 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2014

© PDF: Kamunikat.org 2014 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2014



# Панкіская цясніна

*Пра развіццё палітычнай і эканамічнай сітуацыі ў Грузіі, а таксама аб планах Грузіі, Расіі і ЗША што да падзеяў у Панкіскай цясніне мы ведаем збольшага з паведамленняў расійскіх СМІ. І часта гэта супярэчлівая інфармацыя.*



Пра тое, што адбываецца ў Грузіі, мне ўдалося пагаварыць з дырэктарам Інстытуту праблем уцекачоў і меншасцяў Малхазам Чэміям пасля Маскоўскай сустрэчы Рабочай групы няўрадавых арганізацыяў краін СНД па прадухіленні і ўрэгуляванні канфліктаў Упраўлення вярхоўнага камісара ААН па справах уцекачоў. Рабочая група – сетка няўрадавых арганізацыяў, унікальная паводле колькасці прадстаўленых у ёй арганізацыяў і рэгіёнаў (Праваабарончы цэнтр «Вясна» – таксама яе ўдзельнік). Сфера інтарэсаў і ўплыву Рабочай групы ахоплівае тры галоўныя рэгіёны: Цэнтральную Азію, Каўказ і Заходнюю СНД. Натуральна, кожны з гэтых рэгіёнаў характарызуецца ўласнымі праблемамі.

Малхаз Чэмія – фізік, другая адукацыя ў яго эканамічная. З 1988 году актыўна ўдзельнічаў у нацыянальным руху Грузіі. Быў старшынём першай выбарчай камісіі ў адным з раёнаў Тбілісі. Гэта было, калі выбіралі Звіяда Гамсахурдыю. «Але мы былі ў апазіцыі да яго», – кажа Малхаз Чэмія. Удзельнічаў у Грамадзянскай вайне, у Абхазскай і Паўднёва-асецінскай войнах, быў у Афганістане ў 1983 годзе. Цяпер – дырэктар Інстытуту праблем уцекачоў і меншасцяў.

***– У тэлевізійных рэпартажах з Грузіі мы бачым кватэры, якія апальваюцца жалезнымі печкамі-«буржуйкамі», і бойкі гандаль дровамі проста з легкавікоў. Усё гэта выглядае так прыкра...***

– Гэта, вядома, не зусім так... Сказаць, што ў нас крайняя галеча і надзвычайнае становішча – будзе няпраўдаю. Хоць казаць пра тое, што ў Грузіі квітнее эканоміка ці бізнес, таксама будзе няправільна. Пражыццёвы мінімум у нас лічыцца каля 60 даляраў. А мінімальная пенсія – 10 даляраў. Грошы ў нас называюцца «лары». Курс такі: 1 даляр раўняецца 2,25 лары. Зарплаты ў сярэднім каля 20 даляраў. Ясна, што выжыць і пражыць на гэтую зарплату немагчыма. Або ёсць галеча, або квітнее карупцыя. А карупцыя ў нас на першым месцы. І нелегальныя даходы таксама. Што да расійскіх тэлеканалаў, то праз кабельнае тэлебачанне ў нас ідзе поўная перадача каналаў – і *ОРТ*, і *РТР*, і *НТВ*. А па дзяржаўным канале у нас расійскіх праграмаў няма. Еўрапейскіх няма таксама.

У працэсе глабалізацыі арыентацыя на прамое партнёрства з Захадам – гэта стратэгічны напрамак Грузіі. Але, шчыра кажучы, у Грузіі выдатна разумеюць, што Расія можа быць адным з найлепшых партнёраў – нават радыкальна і празаходне настроены грузінскі істэблішмент і просты народ шкадуюць аб тым, што Расія доўга і ўпарта рабіла ўсё, каб Грузія сышла з яе арбіты. Бо ўсё, што можна было ў Грузіі дэстабілізаваць, Расія дэстабілізавала. Хоць і сёння Грузію не назавеш ворагам Расіі. Але Грузія выйшла з арбіты Расіі – гэта пэўна. І гэта выклікае раздражненне ў Расіі (дакладней, у асобных палітыкаў), бо існуюць імперскія амбіцыі – што цераз Расію ўсё павінна праходзіць і ўсё павінна мець з ёю сувязь. Сёння прысутнасць натаўскіх войскаў у Грузіі вымяраецца адзінкамі, але заўтра іх прыбавіцца, і яны сур'ёзна атабуюцца. І атабуюцца не толькі ў Грузіі, але і ў Арменіі, хоць Арменія нібыта самы верны стратэгічны партнёр Расіі. Але ўплыў *NATO* і Еўропы на Арменію будзе моцны. У Арменіі таксама ёсць сілы (напрыклад, кансерватыўная партыя Арменіі), якія заяўляюць: усе беды і праблемы ад таго, што Арменія мае прарасійскі напрамак. То бок і там ёсць партыі, якія настроены па-антырасійску.

***– Што такое Панкіская цясніна? Якія людзі там жывуць?***

– Гэта каньён, які месціцца ад Тбілісі за 220 кіламетраў. Там жыве роднасны чачэнцам народ. І ў іх ёсць сваякі ў Чачні. Рэч у тым, што ўжо на самым пачатку расійскага пранікнення на Паўночны Каўказ горныя народы пачалі пераходзіць у Грузію. Гэта было зусім даўно – у 17-18 стагоддзі. Потым, у 19 стагоддзі, калі пачалася Каўказская вайна, шмат чачэнцаў перайшлі на Паўднёвы Каўказ. А потым гэтыя чачэнцы асіміляваліся, хоць веры сваёй не страцілі – яны мусульмане. Але яны выдатна размаўляюць па-грузінску і адрозніваюць сябе ад паўночна-каўказскіх чачэнцаў, хоць і маюць сваякоў на Паўночным Каўказе. Вось дзякуючы гэтым гістарычным сувязям на сённяшні дзень у Панкіскай цясніне знайшлі прытулак больш за 7 тысяч уцекачоў, бо там прынамсі нікога не забіваюць і гуманітарная дапамога ідзе. І на самым пачатку ваенных дзеянняў у Чачні параненыя баевікі таксама перайшлі ў цясніну і спакойна пачалі там жыць. А потым пачалася інтэграцыя грузінскага і чачэнскага крыміналаў.

***– А чаму цяпер расійскія журналісты і палітолагі шмат кажуць пра абвастрэнне ўнутраных канфліктаў і магчымасць распаду Грузіі?***

– Расійскія СМІ заўсёды як лакмус. Калі яны раздражнёныя, гэта значыць, што ўсё ідзе нармальна, але толькі без Расіі... Якраз ад гэтага яны раздражнёныя, гэта выклікае гнеў расійскіх палітыкаў, яны не могуць прымірыцца, што без іхняга кантролю ўсё гэта адбылося.

**Паліна СЦЕПАНЕНКА**
**паводле матэрыялаў ПЦ «Вясна»**

# Інтэрнацыянал антыглабалістаў

*Ліпень 2001 году надоўга запомніцца масавымі хваляваннямі ў Генуі. Іх наладзілі антыглабалісты, што з'ехаліся з усяго свету, каб сарваць сустрэчу «васьмёркі». Тады ў акцыях, паводле розных ацэнак, узялі ўдзел да 120 тысяч чалавек, адзін з іх загінуў, некалькі соцень былі паранены, а горад пацярпеў шкоды на 45 млн. даляраў.*

Падзеі 11 верасня прымусілі многіх антыглабалістаў кардынальна перамяніць свае погляды. Як Першая сусветная вайна ўнесла раскол у шэрагі еўрапейскай сацыял-дэмакратыі, ператварыўшы інтэрнацыяналістаў у «нацыянал-абаронцаў», так і тэракты ў ЗША адвярнулі шмат каго ад радыкальнага змагання з сусветным капіталізмам.



Для антыглабалістаў «вось зла» складаецца з такіх дзеячаў: віцэ-прэзідэнта ЗША Дзіка Чэйні асуджаюць за патуранне нафтавым манаполіям, прэзідэнта Джорджа Буша – за скандал з кампаніяй *Enron*, а міністра абароны Дональда Рамсфелда вінавацяць у смерці 300 мірных афганцаў. (Фота: *Tina Fineberg/AP*)

Многіх, асабліва ў Еўропе, не задавальняе той факт, што ў аснове сусветных фінансаў ляжыць даляр і ўся сусветная эканоміка залежыць ад палітычнай і эканамічнай стабільнасці адной краіны, хай сабе нават такой магутнай, як ЗША. Неспакой песімістаў павялічыўся пасля абвалу амерыканскага фондавага рынку ў 2000 годзе.

І яшчэ довад, які высоўваюць шматлікія экалагічныя арганізацыі. У выніку глабалізацыі транснацыянальныя кампаніі выводзяць «экалагічна брудныя» вытворчасці ў бяднейшыя краіны, дзе прыродаахоўнага заканадаўства проста няма. Пры гэтым спажыванне ў развітых краінах расце па экспаненце, што прымушае ўвесь час нарошчваць вытворчасць, а значыць, усё мацней забруджваць навакольнае асяроддзе.

Тэарэтыкі антыглабалізму не абмяжоўваюцца крытыкай цяперашняга стану рэчаў. Адно з асноўных эканамічных патрабаванняў шматлікіх арганізацыяў – паўсюдны ўвод падатку на валютаабменныя аперацыі ў памеры 0,1%, які атрымаў назву «падатак Тобіна» – ад імя аўтара ідэі, лаўрэата Нобелеўскай прэміі па эканоміцы 1981 году Джэймса Тобіна. Мізэрная на першы погляд стаўка знізіла б даходнасць спекуляцыйных аперацыяў з валютамі, што зменшыла б ваганні курсаў. Акрамя таго, улічваючы, што сярэднядзённы абарот на рынку абмену валютаў складае прыкладна 1,5 трлн. даляраў, гэты падатак дазваляў бы збіраць, па найсціплейшых ацэнках, звыш 350 млрд. даляраў у год, якія можна было б выдаткоўваць на правядзенне сацыяльных праграмаў у найбяднейшых краінах свету.

Галоўны недахоп гэтай ідэі палягае ў тым, што для яе ўвасаблення ў жыццё запатрабуецца не толькі згода ўсіх развітых краін (лакальны ўвод «падатку Тобіна» прывядзе проста да перамяшчэння дзелавой актыўнасці ў іншае месца), але і стварэнне гіганцкага наднацыянальнага бюракратычнага апарату, адказнага за збор і размеркаванне вялізных сродкаў. То бок антыглабалісцкая паводле сваёй задумы акцыя непазбежна створыць пажыўную глебу для карупцыі і, магчыма, прывядзе да стварэння таго самага «сусветнага ўраду», якога так баяцца антыглабалісты.

Лепш прапрацавана канцэпцыя «ўстойлівага развіцця», якая прадугледжвае добраахвотнае абмежаванне патрэбаў у найбагацейшых краінах, коштам мадыфікацыі заканадаўства і падатковай палітыкі, дзеля выраўноўвання экалагічнай сітуацыі і скарачэння разрыву ў узроўні жыцця паміж развітымі і бяднейшымі краінамі.

**Ej.ru**

# Нямецкая медыцына

У нямецкім горадзе Вуперталь здарыўся трагічны інцыдэнт. Пажылую нямецкую жанчыну адправілі яшчэ жывой у трупярню, дзе яна пазней памерла ад холаду. Пра гэта ў сераду паведаміла пракуратура гораду, перадае *Reuters*.

Пракуратура расследуе, чаму доктар аб'явіў 72-гадовую жанчыну мёртвай.

Інцыдэнт адбыўся ў сакавіку ў адным з нямецкіх дамоў для састарэлых. Пенсіянерка, чыё імя не разгалошваецца, упала і страціла прытомнасць. Доктар сказаў, што жанчына памерла, і цела адправілі ў трупярню.

Аднак калі праз сем гадзінаў цела рыхтавалі для пахавання, працаўнікі пахавальнай службы зразумелі, што смерць надышла зусім нядаўна, паведаміў пракурор Ральф Маер.

# *NASA* ўсталявала сувязь з «Піянерам-10»

Амерыканскаму касмічнаму агенцтву ўдалося пераадолець адлегласць у 11,8 млрд. км і выйсці на сувязь са сваёй станцыяй «Піянер-10», запушчанай у космас 30 гадоў назад. Як паведаміў кіраўнік праграмы палёту станцыі Лэры Лэшэр, сігнал на «Піянер-10» быў накіраваны з радыётэлескопу пад Лос-Анджэлесам, а адказ быў атрыманы праз 22 гадзіны і радыётэлескопам у Іспаніі.

«Піянер-10» быў запушчаны 2 сакавіка 1972 году. Меркавалася, што ён за 2 гады даляціць да Юпітэра і, правёўшы запланаваны комплекс вымярэнняў, скончыць сваё існаванне. Але тэхнічныя характарыстыкі станцыі перавысілі ўсе спадзяванні. Яна ляцела ўсё далей і далей у неспазнаныя глыбіні Сусвету. Цяпер станцыя рухаецца з хуткасцю 12 км/с у напрамку зоркі Альдэбаран у сузор'і Цяльца.

«Піянер-10» цалкам можа пераадолець праз два з лішнім мільёны гадоў рэшту адлегласці да Альдэбарана і будзе вандраваць па прасторах галактыкі Млечны Шлях мільярды гадоў. Не выключана, што ён перажыве нават Зямлю, бо праз 5 млрд. гадоў, як мяркуюць навукоўцы, Сонца стане чырвоным гігантам і паглыне нашую планету. Так што станцыі выпадае місія несці сведчанне яе існавання.

**ИТАР-ТАСС**

# «Казакоў» палічылі антысемітамі

«Казакамі» звалася спартыўная каманда аднаго з універсітэтаў штату Каліфорнія, размешчанага ў акрузе Сонама. Цягам 40 гадоў каліфарнійскія «Казакі» вялі бітвы на розных палях і пляцоўках, спрыяючы развіццю студэнцкага спорту. Аднак узнікла думка, што назва каманды выходзіць за рамкі «палітычнай карэктнасці». Як паведаміў кіраўнік спартыўнай кафедры Біл Фаска, «асобныя людзі і групы» ў універсітэце Сонамы палічылі сябе абражанымі, бо злачынствы супраць габрэяў – нібыта неад'емная частка казацкай мінуўшчыны. Знайшліся і тыя, хто выступіў за захаванне традыцыйнай назвы каманды, у тым ліку нашчадкі ўкраінскіх і расійскіх казакоў, што жывуць на амерыканскай зямлі. Але яны апынуліся ў меншыні. «У той час як частка нашай грамадскасці хацела б надалей карыстацца назвай «Казакі», – падкрэслівалася ў афіцыйнай заяве адміністрацыі ВНУ, – другая група прадстаўнікоў універсітэту, у тым ліку некаторыя выкладчыкі і выпускнікі, даўно лічыла казакоў непрымальным сімвалам, улічваючы іх агрэсіўную мінуўшчыну».

Такім чынам, бальшынёй галасоў «Казакі» перайменаваныя ў нейтральных «Марскіх ваўкоў». Не спыніліся нават перад салідныміі выдаткамі, якія цягне за сабою такі крок. Паводле падлікаў універсітэту, на распрацоўку новай эмблемы каманды, закупку спартыўнай формы з новай сімволікай і іншыя непазбежныя змены запатрабуецца прыкладна 130 тыс. даляраў.

Перайменаванне спартыўных камандаў цяпер вельмі распаўсюджана ў універсітэтах і каледжах ЗША. Так, касуюцца назвы накшталт «чырванаскурых», недастаткова паважлівыя да карэннага насельніцтва Амерыкі. Гэтаксама «этнічная чыстка» ў спорце закранае назвы народаў, для гісторыі якіх нібыта характэрныя «жорсткасць і гвалт». Праўда, і тут ёсць выключэнні. Пакуль не было чуваць, каб нехта памеўся паставіць пад забарону, напрыклад, «вікінгаў», хоць яны ў старажытнасці зрабілі нямала прыкрасцяў самым розным народам.

**Юрый КІРЫЛЬЧАНКА**

# Для Канады хопіць 11 ядравых боегаловак

Усяго 11 ядравых баегаловак спатрэбіцца, каб знішчыць Канаду – да такой прыкрай высновы прыйшлі амерыканскія эксперты з даследчай арганізацыі «Рада па ахове прыродных рэсурсаў».

Яны распрацавалі камп'ютэрную праграму, якая імітуе разбуральныя наступствы ядравых удараў па краінах свету. Праграма, на стварэнне якой спатрэбілася два гады, прызначана для спецыялістаў у галіне абароны і для грамадскіх арганізацыяў, якія выступаюць за скарачэнне ўзбраенняў.

Згодна з віртуальным сцэнарыем, каб Канада спыніла існаванне як дзяржава, дастаткова нанесці ўдары па Атаве, Ванкуверы, Манрэалі, Таронта, Галіфаксе, Калгары і па ваенных базах 11 боегаловкамі магутнасцю па 475 кілатонаў, заявіў адзін з распрацоўшчыкаў праграмы – фізік Мэт'ю Мак-Кінзі.

Выкарыстоўваючы метад камп'ютэрнага мадэлявання, навукоўцы вызначылі, што знішчыць ЗША можна 124 ракетамі. У сваіх разліках яны зыходзілі з ацэнак дактрыны гарантаванага ўзаемнага ядравага знішчэння, згодна з якімі незаменнаю стратаю для краіны прызнаецца гібель 25 працэнтаў насельніцтва і разбурэнне 50 працэнтаў прамысловасці. Зыходзячы з гэтага пастулату «халоднай вайны», навукоўцы падлічылі, што такія невялікія краіны, як Ірак ці Паўночную Карэю, можна знішчыць усяго 4 ракетамі. Каб зруйнаваць усе краіны *NATO*, спатрэбіцца 300 боегаловак. З улікам тэрыторыі і колькасці насельніцтва, каб нанесці знішчальны ўдар па Кітаі, дастаткова 368 ядравых ракет.

**Барыс ГРУШЫН**

© PDF: Kamunikat.org 2014 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2014

© PDF: Kamunikat.org 2014 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2014



# Жыццё ў «бананавым каралеўстве»

*Мы часта незадаволены гандлярамі. Гандляркі садавінай здаюцца іншым пакупнікам «бананавымі каралевамі». Карэспандэнтка НАШАЙ СВАБОДЫ пацікавілася гэтым «каралеўскім» жыццём.*


Фота Ул.ШЛАПАКА

### Гандляры

Ходзіць шмат легендаў, што нібыта сярод гандлярак садавінай можна сустрэць былых актрыс ды беспрацоўных кандыдатак навук. Хлусня. Няма ніводнай. А вось жанчын з вышэйшай адукацыяй, напрыклад, настаўніц, інжынерак – хапае. Калі толькі пачынаўся «латочны бум», у гандляркі ішлі медычныя сёстры, інжынерны персанал, скарочаны на «Гарызонце», МАЗе і г. д. Гадоў восем таму ў «латочніцы» было не прабіцца: праца хоць і цяжкая, але прыбытковая. Аднак з кожным годам даходы гандлярак падалі. Цяпер сярод прапановаў аб працаўладкаванні самыя рэальныя тыя, у якіх запрашаюць гандляваць садавінай. У гэтых шэрагах засталіся толькі тыя, хто знайшоў тут сябе. Заробак гандлярак – пэўны адсотак ад выручкі, таму яны зацікаўленыя прадаць болей. Дарэчы, жанчыны кажуць, што такі гандаль вельмі добра атрымліваецца ў мужчын, але іх чамусьці за прылаўкам няшмат.

У садавінным бізнесе задзейнічаны: уладальнік (звычайна – прыватны прадпрымальнік) і нанятыя працаўнікі – шафёр, гандляркі. У сярэднім адзін прадпрымальнік трымае 2–5 «кропак». Досыць часта гандаль садавінай бывае сямейным бізнесам. І, на думку жанчын, гэта добра, бо чалавек адчувае адказнасць перад сваімі блізкімі і таму працуе сумленна. Усе размовы пра «садавінную мафію» гандляркі адхіляюць.

### Рэкету ўжо даўно няма!

Мае суразмоўніцы – адна з іх у «латочным» бізнесе ўжо восем год, іншыя – меней, – кажуць, што апошняга рэкеціра бачылі прыкладна гадоў пяць таму назад. Калі і цяпер ёсць якія крымінальныя паборы, то пра гэта ведома толькі ўладальнікам. Але жанчыны ўпэўненыя, што рэкету ў нас ужо няма. Штодзя розных праверак з боку падатковых інспектараў, санітарнай службы і міліцыі, то яны не рэдкасць. Але калі сумленна працуеш, то нічога страшнага ў гэтым няма. За ўсю дакументацыю, акрамя накладной і сертыфіката, нясе адказнасць уладальнік. Гандлярка павінна рэалізоўваць садавіну па коштах, пазначаных у накладной, і атрымоўваць тавар, які адпавядае сертыфікату якасці. Дарэчы, кожны пакупнік мае права пацікавіцца наяўнасцю гэтых дакументаў.

### Раней і цяпер

Пачынаўся «латочны» гандаль, як і ўсе іншыя віды бізнесу, па-дзікунску. Галоўнае правіла было: ашукай пакупніка і дзяржаву. Прымаўка аб першым не зусім сумлена зробленым мільёне заставалася актуальнай. Але прайшоў час, і людзі гатовыя нават у нашых неспрыяльных для малога бізнесу ўмовах працаваць сумленна. Гандляркі кажуць, што цяпер амаль ніхто не робіць разліку на абважванне пакупніку, продаж ніжэйшага гатунку па коштах вышэйшага. На думку жанчын, справа не ў тым, што нехта «нахапаўся» – такім ніколі не бывае досыць. І не ў тым, што цяперашняе заканадаўства на крывой казе не аб'едзеш. Проста чалавек, які нешта здолеў зарабіць, які хоць крыху абцяжараны маёмасцю, даражыць гэтым. Яму выгадна сумленна працаваць, каб лепей жыць і нікога не баяцца.

### Пакупнікі

На думку маіх суразмоўніц, самыя лепшыя і, як яны казалі, надзейныя пакупнікі – пенсіянеры. Хоць і даволі складаныя – пяць разоў праважаць і ўсе памацаюць. У кожнай гандляркі ёсць такія сталыя пакупнікі. Жанчыны ўжо нават ведаюць, калі ў іх пенсія, ведаюць імёны іхных унукаў, для якіх старыя звычайна і купляюць садавіну. У дождж ці сцюжу гэтыя пакупнікі нават могуць прынесці кубачак гарбаты «сваёй» гандлярцы.

А вось на «новых беларусаў», як ні дзіўна, у жанчын няшмат спадзяванняў. Так, яны набываюць садавіну на латках і за адзін раз – шмат. Але сёння купяць тут, а заўтра – пойдуць у супермаркет.

Даволі капрызнымі і прыдзірлівымі бываюць жанчыны сярэдняга веку і сярэдняга дастатку. Іх прынцып: я куплю, але папсую табе нервы. А самыя жахлівыя пакупнікі – мужчыны з характарам «старых дзевак». Увогуле, як кажуць гандляркі, ні ад узросту, ні ад сацыяльнага статусу нічога не залежыць, толькі ад характару кожнага пакупніка.

### Лыжка дзёгцю

У кожнай прафесіі сустракаецца нейкі адсотак несумленных людзей. Ёсць яны і сярод гандлярак. У некага такі характар, нехта азлобіўся на жыццё. Гэта яны нас абважваюць, аблічваюць і абражаюць.

Пакупнікі таксама не святыя. Жанчыны кажуць, што пакуль існуе гандаль, будуць і красці. Вядома, што крадуць не толькі на вулічных латках, але і ў крамах, нават у самых дарагіх супермаркетах. Па назіраннях гандлярак садавінай, іх тавар звычайна крадуць не самыя бедныя людзі, проста скваппныя ці хобі ў іх такое. А пра тых, што крадуць агурок ці яблык на закусь, і казаць няма чаго. Дарэчы, уладальнікі бізнесу добра пра гэта ведаюць, і таму ў коштах закладзены нейкія чвэрць адсотка менавіта на такі выпадак. Таму байка пра тое, што калі гандлярка не абважыць і не аблічыць, то сама пацерпіць страту з-за зладзеяў, прыдумана несумленнымі гандлярамі для наіўных пакупнікоў.

### Бытавыя праблемы

Працоўны дзень гандляркі садавінай пачынаецца звычайна а 9-10 гадзіне раніцы і заканчваецца а 18-19-й, улетку пазней. У апошнія гады з'явіліся палаткі, якія засланяюць гандляроў ад ветру, дажджу і снегу. Але гэта не вырашае бытавых праблем гандляроў. У іх няма перапынку на абед – жанчыны падсілкоўваюцца за прылаўкам. А ўжо, прабачце, наведаць прыбіральню – вялікая праблема. Добра, калі некалькі палатак стаяць побач, тады калянжанкі прыглядзяць за таварам. А калі адна палатка на вуліцы – тады ў ролі часовых ахоўнікаў палаткі выступаюць сталыя пакупнікі, што патрабуе ўзаемнага даверу.

### Эпілог

З савецкіх часоў многія не любяць гандляроў проста за тое, што на самай апошні прыступцы яны мелі доступ да размеркавання тавараў. Па старой завядзёнцы многія не любяць іх і цяпер. Яшчэ прычына нелюбові – далёка не ўсё, што яны прадаюць, чалавек можа дазволіць сабе набыць. А яшчэ дзяржаўная палітыка такая, што прадпрымальны чалавек – гэта вораг, несумленны нехта. І трэба сказаць, што мае суразмоўцы ўсё гэта добра разумеюць. Іх вельмі непакоіць сітуацыя, што складаецца вакол камерцыйных кіёскаў. Жанчыны разумеюць, што можа прыйсці і іх чарга «ачысціць вуліцы». Аднаго не разумеюць: каму будзе лепш ад таго, што паболее беспрацоўных і паменшыцца паступленне падаткаў у казну? І няўжо «простаму чалавеку», ад імя якога прымаюцца «мудрыя» рашэнні, будзе зручна, калі ён не ўбачыць паблізу дома кіёскаў і латкоў з садавінай?

**Аксана ЯНОЎСКАЯ**

## Скарачэнні дакаціліся да сясцёр міласэрнасці

Рэспубліканскі бюджэт 2002 году не прадугледжвае фінансавання службы міласэрнасці Беларускага Чырвонага Крыжа (БЧК). Такім чынам, у найбліжэйшы час не выключана масавыя скарачэнні сясцёр міласэрнасці са службы. Пра гэта БелаПАНу паведаміў старшыня Віцебскага абласнога камітэту БЧК Сяргей Іваноў.

Паводле яго словаў, на пачатку 90-х гадоў праца сясцёр міласэрнасці фінансавалася за кошт Беларускага фонду міру, таварыства сляпых і Міжнароднай федэрацыі Чырвонага Крыжа. З 1992 году фінансаванне поўнасцю ўзяла на сябе міжнародная федэрацыя, а з 1997 году – рэспубліканскі бюджэт. Сёння ў Віцебскай абласной арганізацыі БЧК засталося 38 пасад сясцёр міласэрнасці замест ранейшых 135. На іх утрыманне трэба штогод выдзяляць 55 мільёнаў рублёў, якія сёлета ў бюджэце не прадугледжаны.

Між тым пра неабходнасць утрымліваць службу міласэрнасці кажуць наступныя лічбы: летась сёстры міласэрнасці Віцебскай абласной арганізацыі БЧК дапамагалі на даму 275 адзінокім састарэлым людзям і інвалідам. Увогуле яны правялі больш чым 53 тысячы наведанняў, аказалі звыш 43 тысяч сацыяльна-бытавых паслуг, выканалі 421 тысячу медыцынскіх працэдур. Акрамя таго, сёстры міласэрнасці працуюць у васьмі цэнтрах медыка-сацыяльнай дапамогі Чырвонага Крыжа, якія дзеюць у Віцебскай вобласці. Летась у гэтыя цэнтры звярнуліся амаль 20 тысяч чалавек: каля 2 тысяч прайшлі тут прызначаныя дактарамі курсы медыцынскіх працэдур; астатнім была аказана сацыяльна-бытавая дапамога.

«Зараз мы звяртаемся ва ўсе выканкамы з просьбамі дапамагчы ва ўтрыманні сясцёр міласэрнасці, якія працуюць на іх тэрыторыі, – сказаў Сяргей Іваноў. – Пытанне аб фінансаванні абласной арганізацыі ў цэлым «вісіць у паветры». У найбліжэйшы час штосьці павінна вырашыцца, але вырашаць гэта будзе на ўзроўні Мінску». Пры гэтым, аднак, у кіраўніка абласнога камітэту Чырвонага Крыжа няма ўпэўненасці, што неабходныя сродкі будуць выдзелены.

**Андрэй АЛЯКСАНДРАЎ**

# Нішто пад месяцам не вечнае

## *У Барысаве пра гэта дбае гарадское начальства*

Барысаўская «вертыкаль» знайшла свой, арыгінальны спосаб падрыхтоўкі да святкавання 900-годдзя гэтага славутага беларускага гораду. Часу засталося не так шмат, а на запланаваных улетку ўрачыстых мерапрыемствах чакаецца прысутнасць самога кіраўніка дзяржавы, а таксама замежных гасцей. Таму знакамітая прымаўка «няма чалавека – няма праблемы» ў Барысаве пераўтварылася ў «няма помніка – няма праблемы».

Першы крок барысаўскія «вертыкальшчыкі» зрабілі яшчэ на мінулым тыдні – па іх распараджэнні пад бульдозеры пайшоў помнік архітэктуры пачатку XX стагоддзя, які знаходзіўся па вуліцы III-га Інтэрнацыяналу ў гістарычнай частцы гораду, г.зв. «Старым Горадзе». Гэты двухпавярховы дом з цэглы прастаяў бы і яшчэ сто гадоў. Але, на сваю бяду, ён патрабаваў капітальнага рамонту і, самае галоўнае, рэстаўрацыі, на якую напярэдадні «грандыёзных» урачыстасцяў з магчымым удзелам прэзідэнта грошай у гарадскім бюджэце не было. Тады надзеленыя ўладай барысаўскія мужы знайшлі «простае» выйсце з гэтай, на першы погляд складанай, сітуацыі. Яны звярнуліся ў сталіцу і дамагліся прызнання помнікамі архітэктуры ў Барысаве толькі Уваскрасенскага сабора другой паловы XIX ст., касцёла пачатку XIX ст. (самы стары будынак гораду) і размешчанага непадалёк ад іх г.зв. «Казначэйскага дома». Прычым два першыя будынкі знаходзяцца на балансе праваслаўнай і каталіцкай цэркваў. Усе ж астатнія архітэктурныя творы нашых продкаў канца XIX – пачатку XX стст., на якіх зусім нядаўна яшчэ красаваліся шыльды «Ахоўваецца дзяржавай!», было вырашана пусціць пад бульдозер, спасылаючыся на іх аварыйнае становішча.

Зараз на чарзе аднапавярховы дом 1917 г. з дрэва і цэглы, які знаходзіцца па вуліцы Камсамольскай, насупраць Уваскрасенскага сабора. Разам яны надаюць старой частцы Барысава свой, непаўторны каларыт. Усе мы добра ведаем, якія бедныя на гістарычныя помнікі беларускія гарады. Не выключэнне і Барысаў. Таму вялікую каштоўнасць тут уяўляюць нават пабудовы сярэдзіны XX стагоддзя. А Стары Горад больш-менш дае ўяўленне пра Барысаў дарэвалюцыйны. І калі яго знішчыць, то застануцца толькі «сталінская» забудова праспекту Рэвалюцыі ў Новым Горадзе – ён прывядзе вас ад чыгуначнага вакзала да гарвыканкаму – ды новабудоўлі.

Таму на абарону помнікаў архітэктуры стала неабыякавая мясцовая грамадскасць. Найбольшую актыўнасць выказалі барысаўскія «зубры», якія на мінулым тыдні правялі два пікеты. Аднак выратаваць дом на вуліцы III-га Інтэрнацыяналу не ўдалося. У нядзелю, 10 сакавіка, на дапамогу «Зубру» выйшлі і некаторыя іншыя прадстаўнікі барысаўскай грамадскасці. На пікет ля чарговага запланаванага пад знос будынка сабралася каля 100 чалавек.

За гадзіну прахожыя паставілі некалькі соцень сваіх подпісаў у абарону помнікаў архітэктуры Старога Гораду. Прычым падпісанты падыходзілі самі, нават бабулькі з відавочна «лукашэнкаўскага» электарату. Яны праводзілі своеасаблівых экскурсіі ў гісторыю Барысава: успаміналі сваю маладосць, тое, што звязвала іх з гэтымі будынкамі. Аказваецца, кожны завулачак, нават кожны дом Старога Гораду меў калісьці сваю мянушку «па-вулашнаму», часам брахлівую. Успаміны сагравалі сэрцы старых, як і сам выгляд дамоў іх маладосці. І з тым, і з другім ім было відавочна шкада развітвацца.

Амаль стопрацэнтная падтрымка простых людзей надала пікетоўшчыкам жадання стаяць за свой горад да канца. Як сказаў старшыня Барысаўскай рады БНФ Анатоль Аскерка: «Будзем змагацца, як за Курапаты!»



Гэты дамок мог быць прывабным напамінкам пра барысаўскую даўніну

**Зміцер БУЛАЙ**

© PDF: Kamunikat.org 2014 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2014

© PDF: Kamunikat.org 2014 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2014



СЕНСАЦЫІ

## Скарбы царскай сям'і

У Брытанскім музеі выстаўлены фотаздымкі скарбаў, знойдзеных іракскімі археолагамі ў чатырох магілах Німруду (сённяшні Паўночны Ірак). Самі скарбы не патрапілі на музейную прэзентацыю, бо сёння Ірак знаходзіцца ў ізаляцыі. Скарбы налічваюць сотні рэчаў: завушніцы, пярсцёнкі, нажныя бранзалеты, дыядэмы, сталовы посуд. Бальшыня з іх мае вытанчаную гравіроўку і аздабленні з каштоўных камянёў. Адно з самых незвычайных упрыгожанняў – жаночы галаўны убор філіграннага выканання, сабраны з дзесяткаў маленькіх залатых пласцінак, злучаных між сабою. Усе рэчы датуюцца IX і XVIII стагоддзямі да нашай эры. Іх знайшлі ў грабніцах, дзе, як мяркуюць, знаходзіліся парэшткі чатырох дачок ці жонак асірыйскага цара Ашнурнасірпала II. На прэс-канферэнцыі пасля прэзентацыі відэаматэрыялаў, прывезеных у Лондан іракскімі археолагамі і гісторыкамі, кіраўнік аддзелу Брытанскага музею, прысвечанага старажытнаму Блізкаму Усходу, сп.Керціс падкрэсліў: «Знаходка па сваёй важнасці супернічае са знакамітымі скарбамі Тутанхамона. Яна цалкам змяняе ўяўленні аб асірыйскім перыядзе культуры. Без перабольшання можна сказаць, што нічога падобнага дагэтуль яшчэ не было». Па яго словах, у адной толькі грабніцы знайшлі мастацкія залатыя вырабы агульнай вагой болей за 26 кілаграмаў. «Асірыйцы лічылі, што людзей знатнага паходжання трэба хаваць з рэчамі, якія маглі б ім спатрэбіцца ў замагільным жыцці. Золата відавочна было важным паказчыкам высокага статусу, і цяпер можна бачыць, наколькі фантастычна прыгожыя рэчы мелі асірыйскія цары ды ў якой колькасці», – заявіў Керціс.

Німруд, Ніневія і Ур – гэта старажытныя гарады-дзяржавы, якія былі сталіцамі Асірыйскай Імперыі. Хоць еўрапейскія археолагі праводзілі там некалькі раскопак, грабніцы ім знайсці не ўдалося. Першыя дзве грабніцы іракцы знайшлі перад вайной у Персідскай затоцы ў 1991 годзе, і гэта стала вядома на Захадзе. Аднак вайна і наступная поўная ізаляцыя Іраку перакрылі інфармацыйную плынь, таму пра знаходку дзвюх іншых грабніц чулі ў Еўропе толькі некалькі спецыялістаў. У Німрудзе ў часе папярэдніх раскопак было зроблена шмат археалагічных адкрыццяў, аднак залатых рэчаў ці пахавальных упрыгожанняў раней ніколі не знаходзілі.

Грабніцы (дзве выраблены з каменя, дзве – з бронзы) былі знойдзеныя ў закрытых памяшканнях пад руінамі аднаго з храмаў старажытнага Німруду. Мяркуюць, што апошнім часам Німруд абрабавалі, і скарбы цяпер знаходзяцца ў Багдадзе. Паводле перакананняў Керціса, у будучых раскопках у Німрудзе можа быць адкрыта шмат новых грабніцаў з залатымі ўпрыгожаннямі, а дэманстрацыя знаходак шырокай публіцы выкліча такую ж буйную сенсацыю, якую зрабіла ў 1972 годзе выстава скарбаў Тутанхамона, знойдзеных яшчэ ў 20-я гады мінулага стагоддзя Говардам Картэрам.

**Вераніка САЛАГУБ**



# Прэстыжная псіхіятрычная клініка

*Акторы, пісьменнікі, вучоныя... – усе «звар'яцелыя» інтэлектуалы ЗША – пацыенты гэтай псіхіятрычнай клінікі, у якой праходзіў курс лячэння ад шызафрэніі галоўны герой фільма «Гульні розуму».*

Джона Нэша – матэматыка, шызафрэніка і лаўрэата Нобелеўскай прэміі – першы раз адвезлі ў псіхіятрычную лякарню проста з канферэнцыі, якая адбывалася ў Гарвардзе. Але ён не першы з элітнага бостанскага універсітэту патрапіў у Маклін – самы старадаўні і прэстыжны шпіталь для вар'ятаў, заснаваны ў 1817 годзе.

Больш таго, мецьу сваім радаводзе студэнтаў Гарварду і нейкага сваяка, які трапіў на лячэнне ў клініку для звар'яцелых багацеяў – гэта якраз тое, што адрозніваe сапраўдных пародзістых янкі – сямейныя кланы, што ствараюць касту бостанскіх брахманаў. Адносіны паміж дзвюма ўстановамі настолькі блізкія, што адзін час хворыя маглі казырнуць сваім універсітэцкім дыпломам – нічога дзіўнага, калі ўлічыць, што для гэтага сацыяльнага класу прайсці праз Кембрыдж было своеасаблівым рытуалам юнацтва. Першы пацыент быў выкладчыкам грэцкай і ўяўляў сябе Ісусам Хрыстом. Яго сяброў забаўляла, калі ён хрысціў іх. Але ў Гарвардзе палічылі, што нягожа гэтаму спектаклю быць часткай навучальнай праграмы па яго дысцыпліне.

Маклін выглядае не надта прывабна ў «Гульнях розуму» – фільме, намінаваным на Оскар па некалькіх катэгорыях, дзе ў галоўнай ролі зняўся Расэл Кроу. Менавіта там ягоны герой Нэш разумее, што афіцэры міністэрства абароны, якія аддаюць яму загад дэшыфраваць пасланні расійцаў, існуюць толькі ў ягонай галаве. У карціне паказваюць, як яго лячылі шокавай тэрапіяй з выкарыстаннем інсуліну – гэты метад тады быў вельмі папулярны. Але ў фільме не тлумачыцца, што Нэш трапіў ува ўстанову, якая ўяўляе сабою гісторыю псіхіятрыі Злучаных Штатаў; месца, дызайнерам якога быў той самы чалавек, што спраектаваў Цэнтральны парк. Пацыенты тут маглі згуляць партыю ў гольф на наступны дзень пасля сеансу электрашокавай тэрапіі. На вячэру яны маглі выбіраць паміж лангустам ці малочным парсючком, выгадаваным непасрэдна там, побач з садовымі дрэвамі і гародам.

Расэл Кроу не першы актор, намінаваны на Оскар за выкананне ролі рэальнага чалавека, былога пацыента гэтай клінікі. Чатыры гады таму Вайнона Райдэр і Анжэліна Джолі выканалі ролі ў фільме «Перарваная нявіннасць», што распавядае пра лячэнне ў Маклін Сюзаны Кейзен, пісьменніцы, чыя кніга пра час, праведзены там, заняла пачэснае месца сярод бестселераў. Кейзен знаходзілася там ужо пасля таго, як памерлі апошнія пацыенты-мільянеры, якія мелі магчымасць арганізаваць у адведзеных ім у клініцы апартаментах вячэру для сваіх сяброў, калі на стале былі срэбраныя сталовыя прыборы і посуд з найтанчэйшай парцэляны.



Кадр з фільму «Гульні розуму»

Лякарня Маклін аказалася літаратурным месцам. Але сёння клініка, дзе аднаўлена лячэнне для вельмі багатых пацыентаў у памяшканні, што носіць назву Павільён, вядомая тым, што ў ёй праводзяцца самыя шырокія даследаванні ў галіне ментальных захворванняў, і самым маштабным на ўсім свеце фінансаваннем. Апроч таго, тут маецца банк, у які прадстаўлены 5 000 узораў галаўнога мозгу – матэрыял, жаданы для многіх псіхіятраў-даследчыкаў, якія практыкуюць.

Кейзен дажыла да таго моманту, калі змагла скарыстаць з аўтарскіх правоў на сваю гісторыю і быць сведкам поспеху фільма. Гэтага не здарылася з Сільвіяй Плат, культавай пісьменніцай у ЗША, бо яна памерла раней, чым была апублікавана яе кніга «Шкляны каўпак», дзеянне якой таксама разгортваецца ў Маклін, а амерыканскія школьнікі ставяцца да яе з такой жа глыбокай пашанай, як да кнігі «Над безданню ў жыцце». Плат трапіла за агароджу, што аддзяляе прыгожыя сады клінікі ад астатняга свету, адразу пасля першай спробы самагубства. Праз некалькі гадоў, будучы жонкай увянчанага лаўрамі паэта Тэда Хаджэса, яна скончыла жыццё, атруціўшыся газам. Два сеансы электрашокавай тэрапіі ў Маклін вылечылі яе толькі звонку.

Да Плат у клініцы знаходзіўся Роберт Лоўэл, паэт і лаўрэат Пулітцэраўскай прэміі, і, апроч таго, выхадзец з аднаго з самых вядомых арыстакратычных сямействаў Новай Англіі. У клініцы Лоўэл напісаў адзін з самых знакамітых сваіх паэтычных зборнікаў і яму актыўную перапіску з Жаклін Кенэдзі і Эзрай Паўндам.

Дактары гэтай клінікі могуць паставіць дыягназ і пасля смерці. Нядаўна адзін з псіхіятраў Маклін правёў даследаванне, спрабуючы высветліць сапраўдную прычыну смерці драматурга Юджына О'Ніла, лаўрэата Нобелеўскай і Пулітцэраўскай прэмій. Пасля дэталёва праведзенай аўтапсіі доктар паказаў, што смерць надышла ў выніку нейра-дэгенератыўнага захворвання, якое прывяло да таго, што драматург страціў здольнасць пісаць і перасоўвацца, а не была следствам фатальнага алкагалізму, як меркавалі іншыя.

Ёсць падазрэнні, што ў сценах клінікі пабывалі і іншыя знакамітасці, але вядомыя толькі гісторыі тых, хто сам захацеў іх распавесці. Палітыка тактоўнасці Маклін абсалютная, і гэтым яна ганарыцца ў сваіх аб'явах у *New Yorker* і часопісах былых выпускнікоў Гарварду і Йельскага універсітэту. Нават сёння, калі размовы пра разумовыя захворванні ўжо не здаюцца дзіўнымі, пацыенты шыкоўнага Павільёну наведваюць клініку, прыцягнутыя абяцаннямі пра захаванне ў сакрэце гісторыі іх хваробы.

Нумары люкс з камінамі, персідскімі дыванамі, срэбным посудам і пакоямі для прыслугі. Але, што праўда, люстры зачэсаны былі металічныя, каб прадухіліць спробы пацыентаў парэзаць сабе вены. Арганізуючы такія пышныя апартаменты, супрацоўнікі цэнтру спрабавалі пазбавіць сваіх пацыентаў ад эмацыйнай траўмы, звязанай з ад'ездам з тых шыкоўных дамоў, што ім належалі.

Цяпер невядома, хто займае апартаменты Павільёну, высакароднага спадкаемцы Гарвард-Клубу, і ніхто яшчэ не расказаў пра свае перажыванні, атрыманыя падчас перабывання там. Дакладна толькі тое, што гэта пацыенты, у якіх ёсць досыць грошай для таго, каб плаціць каля 2 100 еўра за дзень лячэння ў клініцы. Гэта шэсць апартаментаў класу люкс з прыслугай, тэлефонам, асобным ванным пакоем, кабельным тэлебачаннем, свежазрэзанымі кветкамі, якія мяняюць кожную раніцу, як у шыкоўных гатэлях.

**El Mundo, Іспанія**

ДАТЫ, ПАДЗЕІ, ЛЁСЫ

### 15 сакавіка

**1862**. Нарадзіўся краязнаўца і археолаг Францішак Вярэнька, аўтар кнігі «Аб народных леках» (1896). Паводле звестак, сабраных Вярэнькам у Барысаўскім і Лепельскім паветах, тагачасныя сяляне лічылі смерць і хваробы жывымі істотамі, і таму народная медыцына была наборам спосабаў, якія дазвалялі «выгнаць» хваробу з цела.

**1907**. Упершыню жанчыны былі абраныя дэпутатамі парламенту ў Фінляндыі, тады аўтаномнага княства ў складзе Расіі. У Фінляндыі жанчыны сёння маюць больш дэпутацкіх мандатаў, чым дзе яшчэ ў свеце, – каля 40 %.

**1932**. Мястэчка Койданава перайменавалі ў Дзяржынск.

**1937**. Бернард Фаўстус заснаваў у Амерыцы першую станцыю пералівання крыві (назваў яе «банк крыві»).

### 16 сакавіка

**1787**. Нарадзіўся нямецкі фізік Георг Ом, аўтар асноўнага закону электрычнага ланцуга.

**1792**. На маскарадзе ў Стакгольме быў смяротна паранены і праз 13 дзён памёр кароль Швецыі Густаў III. Замах здзейсніў былы афіцэр асабістай каралеўскай аховы, удзельнік змовы прыдворных апазіцыйных партыяў, якія Густаў III незадоўга да таго адхіліў ад улады. Забойства караля паслужыла сюжэтам для оперы Джузепе Вердзі «Бальмаскарад».

**1952**. У мястэчку Сілао на востраве Рэюньён за суткі выпала рэкордная колькасць ападкаў – 1 870 мм, або 7 554 т вады на кожны акр зямлі.

**1995**. Штат Місісіпі нарэшце ратыфікаваў 13-ю папраўку да Канстытуцыі ЗША, якая забараняла рабства.

### 17 сакавіка

Сябры Ірландыі ва ўсім свеце адзначаюць дзень **св.Патрыка**. У Сярэднявеччы лічылася, што ў гэты дзень пачаўся біблейскі сусветны патоп.

**1817**. Цар Аляксандр I выдаў загад, якім забаранялася беспадстаўна абвінавачваць габрэяў у рытуальных забойствах хрысціянскіх дзяцей.

**1917**. Нарадзіўся легендарны амерыканскі спявак і піяніст Нат Кінг Коўл, які цараваў у папулярнай музыцы перад пачаткам эры рок-н-ролу. У 1956 г. банда хуліганаў-расістаў скінула Коўла са сцэны, калі ён даваў у Алабаме канцэрт для белых.

### 18 сакавіка

**1662**. З ініцыятывы філосафа Блеза Паскаля і з дазволу караля ў Парыжы з'явіліся першыя гарадскія «аўтобусы» (зразумела, конныя). Меркавалася, што танным грамадскім транспартам будуць карыстацца бедныя, але гэтыя вазкі ўвайшлі ў моду ў «залатой моладзі», якая выштурхоўвала з салону простых рабацягаў. Бедакі расчараваліся ў такім «агульнадаступным» транспарце і, калі шляхцюкі накаталіся ўдосталь, яго ліквідавалі.

**1932**. Нарадзіўся адзін з лідэраў беларускіх баптыстаў, вязень сумлення савецкіх лагераў (1951 – 64) Эрнст Сабіла. Асвячаў першы з'езд БНФ.

**1932**. Нарадзіўся амерыканскі пісьменнік Джон Апдайк, аўтар вядомага рамана «Бяжы, трусік» (*Rabbit, Run*). Называе кнігі «найлепшаю мэбляй».

**1967**. Брытанская авіяцыя спаліла напалмавымі бомбамі танкер *Torrey Canyon*, які безнадзейна сеў на мель і пачаў разліваць нафту каля мысу Край Зямлі.

### 19 сакавіка

**1612**. Падчас родаў памерла слуцкая князіня Соф'я Радзівіл, апошняя з роду Алелькавічаў. Перад узяццем шлюбу паставіла ўмову, каб яе дзеці (так урэшце і не народжаныя) былі хрышчаны паводле праваслаўнага абраду, шмат ахвяравала на манастыры і цэрквы; праз мужа, Януша Радзівіла, дамагалася каралеўскага рашэння пра забарону гвалтоўнага далучэння слуцкіх праваслаўных да уніі. Удзячная царква прылічыла Соф'ю да святых.

**1917**. У Кіеве прайшла 100-тысячная дэманстрацыя пад лозунгамі з розным градусам свабоды: «Аўтаномію Украіне», «Нехай живе свободная Украіна з гетманом на чале».

**1971**. Землятрус у Перу скінуў у горнае возера вяршыню скалы. Вада выйшла з берагоў, абрынулася ўніз і змыла мястэчка Шунгар. Загінулі каля 500 чалавек.

### 20 сакавіка

**43 да н. э.** Нарадзіўся старажытнарымскі паэт Авідый. Сярод іншага пісаў вершаваныя лісты пра каханне ад імя ўяўных жанчынаў.

**1862**. Нарадзіўся этнограф і мовазнаўца Адам (Адольф) Багдановіч, аўтар кніг «Пра паншчыну» і «Перажыткі старажытнага светасузірання ў беларусаў». Перажыў сына-паэта Максіма на 23 гады.

**1932**. У вёсцы Асташын на Наваградчыне сяляне паўсталі супраць эканамічнага і нацыянальнага ўціску з боку польскай дзяржавы. 49 чалавек былі асуджаныя да турэмнага зняволення, 7 – да смерці на шыбеніцы.

**1987**. У шатландскім мястэчку Тайсайд памерла чарапахавая котка-рэкардсменка па мянушцы Таўзер. За свае 14-гадовае жыццё на броварах яна злавіла 28 899 мышэй – прыкладна па тры штодня.

### 21 сакавіка

**1857**. Амаль увесь Токіо згарэў пасля землятрусу. Гасіць пажары не дазвалялі цыклонны вецер, хуткасць якога дасягала 100 км/г. Агулам загінула каля 107 тысячаў чалавек.

**1927**. Польскія ўлады забаранілі за прасавецкую дзейнасць Беларускую сялянска-работніцкую Грамаду, якая налічвала 120 тысяч сябраў. 490 актывістаў Грамады былі рэпрэсаваныя.

Падрыхтаваў **Юрась БАРЫСЕВІЧ**

Галоўны рэдактар **Павел ЖУК**

© НАША СВАБОДА. Спасылка на газету НАША СВАБОДА абавязковая. Рэдакцыя можа не падзяляць меркаванні аўтараў, публікаваць артыкулы дзеля палемікі.
Адрас: г.Мінск, вул. Рафіева, д.25, корп.1. Пасведчанне аб рэгістрацыі № 1289. Выдаецца з 25 лютага 2000 г. Заснавальнік Змiцер Жук.
Выдавец – рэдакцыя газеты НАША СВАБОДА. E-mail: NPSvaboda@irex.minsk.by Надрукавана з дыяпазітываў заказчыка на паліграфічным РУП «Чырвоная звязда»
220073, г. Мінск, Першы загарадны завулак, 3. Заказ №1133 Нумар падпісаны ў друк 14/03/2002 (15:00) Наклад – 8.170

© PDF: Kamunikat.org 2014 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2014